

# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

1 студзеня 2021 года №1 (1340) 18+


# Віншуем з Новым годам!

старонка 5

Вілейскі Дзед Мароз-альпініст Дзіма Субач з сябрамі раздаваў дзецям падарункі праз вокны дзіцячага хірургічнага цэнтра ў Мінску.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Хто стаў пераможцам акцыі «Асоба года» за 2020 год? старонка 2

Маладзечанца асудзілі за абразу начальніка міліцыі старонка 20

Смаргонскі дзюдаіст падпісаў ліст за сумленныя выбары, а пасля яго выключылі са зборнай старонка 22

Каго мы страцілі ў 2020 годзе старонка 8

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# Хто стаў «Асобай года» за 2020 год

**Дарагія чытачы, мы падсумавалі нашу традыцыйную акцыю «Асоба года» і маем імёны пераможцаў.**

Мы вельмі ўдзячныя ўсім, хто стаў намінантам акцыі. Дзякуючы вам 2020 год быў такім непаўторным і, нягледзячы на ўсе складанасці, нам ёсць што прыгадаць з удзячнасцю.

У акцыі ёсць пераможцы ў чатырох намінацыях. У галоўнай намінацыі «Асоба года», а таксама ў намінацыях «Учынак года» і «Натхненне года» пераможцаў выбірае рэдакцыя. У намінацыі «Выбар чытачоў» пераможцаў абіраюць чытачы праз галасаванне.

### «Выбар чытачоў»

Па выніках галасавання пераможцам намінацыі стаў маладзечанскі адзінаборца **Аляксей Кудзін**. Мы намінавалі яго за сілу духу. Кудзін – чэмпіён свету па тайскім боксе сярод аматараў у 2006, 2007, 2008, 2011 і 2014 гадах, чэмпіён свету па кікбоксінгу сярод аматараў у 2007 і 2009 гадах, чэмпіён свету сярод прафесіяналаў у 2007 годзе.

Аляксей вырас і жыве ў Маладзечне, разам з жонкай выхоўвае пяцярых дзяцей.

10 жніўня ў Маладзечне Аляксея спрабавала затрымаць група сілавікоў, але Аляксей змог пазбегнуць затрымання. Падчас сутыкнення Аляксея збілі дубінкамі, таму на наступны дзень паехаў у бальніцу. Машыну з Аляксеем падрэзалі, кінулі пад аўто светлашумавую гранату, збівалі і ва ўпор стрэлілі з траўматычнага пісталета.

Падрабязней расказ Аляксея вы можаце пачытаць на нашым сайце **rh.by.** У адносінах да Кудзіна завялі крымінальную справу па частцы 2 артыкула 363 Крымінальнага кодэкса – «Супраціўленне супрацоўніку органаў унутраных спраў або іншай асобе, якія ахоўваюць грамадскі парадак». Максімальная санкцыя – да пяці год пазбаўлення волі.

Цяпер Аляксей за мяжой. Ён не з'явіўся на пасяджэнне суда па сваёй справе, мужчыну абвясцілі ў вышук.

### «Учынак года»

**Аляксандр Грымаць** – дэпутат Лебедзеўскага Савета дэпутатаў 28-га склікання, а раней працаваў участковым міліцыянерам. 12 жніўня ён сабраў мясцовых жыхароў і прапанаваў занесці калектыўны зварот старшыні Лебедзеўскага сельвыканкама **Тамары Дудзіч**.

У звароце было патрабаванне звярнуцца да Маладзечанскага раённага і Мінскага абласнога Саветаў дэпутатаў з хадайніцтвам аб спыненні крывапраліцця і беззаконня, а таксама аб вырашэнні пытання аб правядзенні мірных перамоў і недапушчэнні гвалту з абодвух бакоў.

Калі людзі ішлі да сельвыканкама, раптоўна дарогу перагарадзіў бус, з якога выскачыла група сілавікоў. Яны не прадстаўляліся, і адразу пачалі збіваць мужчын, чатырох затрымалі. Сярод затрыманых быў і дэпутат.

Пасля Грымаця асудзілі па артыкуле 23.34 за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве на 20 базавых велічынь. Грымаць віну не прызнаў.

Крымінальная справа па факце збіцця людзей у адносінах сілавікоў так і не была заведзеная.

Мы лічым, што ўчынак дэпутата Аляксандра Грымаця – узор таго, што ў любой сітуацыі чалавек можа дзейнічаць у адпаведнасці з уласнымі перакананнямі і сумленнем.

### «Натхненне года»

У гэтай намінацыі перамагае **Васіль Грынь** з камандай гаспадароў аграсядзіб Валожыншчыны. Васіля мы адзначылі за дапамогу медыкам падчас першай хвалі каронавіруса. Гаспадары аграсядзіб прапанавалі Валожынскай ЦРБ дапамогу гарачымі штодзённымі абедамі для медыкаў. Кіраўніцтва бальніцы падтрымала прапанову. Ініцыятыва належала **Анатолю Ганцу**. На яе адгукнуліся іншыя гаспадары, у тым ліку і Васіль Грынь.

Гаспадары аграсядзіб дамовіліся, што будуць у меру сваіх магчымасцяў рабіць для медыкаў абеды. Нехта закрываў адзін дзень, а нехта гатуе ежу тры дні. Шмат людзей дапамагала гароднінай і мясам. Ежу гатавалі сем'ямі, а некаторыя прынялі да сябе кваліфікаваных повараў.

З кухонным блокам бальніцы прадумалі лагістыку. Прывозілі бакі з ежай, перадавалі іх на ўваходзе ў інфекцыйнае аддзяленне. Пасля ўсё мылася і дэзынфікавалася. Потым гэтыя бакі забіралі. Калі хтосьці з гаспадароў сам не мог прывезці ежу, дактары накіроўвалі машыну і забіралі абеды.

Васіля Грыня і каманду мы адзначылі ў намінацыі «Натхненне года», каб прыклад гэтых людзей натхняў вас і нас на добрыя справы.

### «Асоба года»




**«Асобай года-2020» па версіі «Рэгіянальнай газеты» стала віляйчанка, актывістка, педагог Вольга Шостак.**

Ёй сёлета стала віляйчанка **Вольга Шостак**. Педагога з Вілейкі мы адзначылі за яе грамадзянскую пазіцыю.

Сёлета Вольга актыўна збірала па рэгіёне подпісы за кандыдата ў прэзідэнты Святлану Ціханоўскую, пасля выбараў дабівалася сустрэчы выбаршчыкаў з дэпутатам Ірынай Супрановіч, каб вырашыць балючыя пытанні, якія хвалявалі вілейчукоў. Праз сваю грамадзянскую пазіцыю Вольга была вымушаная звольніцца з любімай працы – Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі. Звольнілася яна сама. А рашэнне растлумачыла так: «Я не магла падманваць дзяцей і калег, казаць, што ў нас усё добра, гледзячы на тое, колькі вакол гвалту і хлусні. Як я магу казаць дзецям пра тое, што IT-спецыялісты патрэбныя ў нашай краіне, калі ў святле апошніх падзей IT-кампаніі з'язджаюць з Беларусі. Не магу казаць пра тое, што ў беларускім грамадстве цэняць камунікацыі, камунікабельнасць, крытычнае мысленне. Бо многія з тых людзей, якія валодаюць крытычным мысленнем і гатовыя адстойваць сваю пазіцыю, сёння за кратамі».

У цэнтры дадатковай адукацыі Вольга стварыла міні-лабараторыю «Планета навуковых цудаў». Са сваімі працамі яна сама і яе вучні не раз былі пераможцамі конкурсаў розных узроўняў, пастаянна выступалі на гарадскіх пляцоўках на масавых мерапрыемствах. Педагог шмат зрабіла для развіцця STEM-адукацыі ў Вілейцы.

За восень Вольга два разы была асуджаная па адміністрацыйнай справе па артыкуле 23.34 Кодэкса ад адміністрацыйных парушэннях. Прысудзілі штрафы – 540 і 1215 рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**




## Дарагія нашы падпісчыкі!

Мы заўсёды думаем пра вас, таму календары на 2021 год ужо надрукавалі і адклалі.

Але каб своечасова здаць газету на пошту ў гэтыя святочныя дні, мы не паспявалі ўкласці календары ў першы нумар гэтага года.

Таму абавязкова чакайце наш традыцыйны каляндар у адным з бліжэйшых нумароў.

## Шаноўныя чытачы! Калі вы не паспелі падпісацца на 2021 год, можна выпісаць газету ў наступным месяцы, і яна будзе прыходзіць вам ад лютага

**Каб быць у курсе навін рэгіёна, чытаць жыццёвыя гісторыі і кожны тыдзень даведвацца нешта новае пра мінулае нашага Павілля, вам не трэба будзе хадзіць па «Рэгіянальную газету» штопятніцы, каб купляць у розніцы.**

**Газету з аб'ектыўнай інфармацыяй на роднай мове прынясуць у паштовую скрыню.**

### Падпісацца на «РГ» можна заўжды:

✐ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструйцеся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка дадайце ваш адрас, а пасля зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 63212. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. Або адсканугце QR-код.



У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✐ **на пошце**

✐ **праз паштальёна**

✐ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі**, рублёў**:**

- на месяц – 5.19 / 3.86 (з дастаўкай на адрас падпісчыка / на абаненцкую скрыню або да запатрабавання),
- на квартал – 15.57/11.58.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16.99 / 15.39,
- на квартал – 50.97 / 46.17.

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:**
*63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска)*.

# Гандлёвую надбаўку часам завышаюць удвая

**Камітэт дзяржкантролю Мінскай вобласці пастаянна кантралюе стан спажывецкага рынку.**



Фота 1000.menu.

Калі купляеце тавары, правярайце тэрмін прыдатнасці.

Кантрольныя мерапрыемствы паказваюць, што найбольш злабадзённым парушэннем з'яўляецца завышэнне рознічных цэн. Такія факты знайшлі прыкладна ў кожным трэцім гандлёвым аб'екце, які маніторылі. Па некаторых пазіцыях узровень гандлёвай надбаўкі прадаўцы завышалі ўдвая.

Такія парушэнні дапускаюць як гандлёвыя прадпрыемствы малога і сярэдняга бізнесу, так і буйных гандлёвых сетак.

Напрыклад, на трох аб'ектах Салігорскага раёна ў снежні знайшлі перавышэнне гранічных гандлёвых надбавак на сацыяльна значныя тавары ад 20 да 49%.

Распаўсюджаным парушэннем з'яўляецца рэалізацыя тавараў, у якіх скончыўся тэрмін прыдатнасці. Такое парушэнне знайшлі ў кожным другім гандлёвым аб'екце ў межах маніторынгу.

Напрыклад, у двух магазінах Валожынскага і Барысаўскага раёнаў знялі з продажу тавар, у якога скончыўся тэрмін прыдатнасці, на суму каля 70 рублёў.

Асобныя суб'екты ў парушэнне Правілаў гандлю рэалізоўвалі прадукцыю, якая не ўключаная ў асартыментны пералік. У некаторых у такі пералік не былі ўключаныя дэзінфікуючыя сродкі і сродкі для засцярогі дыхання.

Звяртаем увагу суб'ектаў гаспадарання, што ад 4 снежня дзейнічае новы асартыментны пералік тавараў, устаноўлены пастановай Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю ад 19 лістапада 2020 года №74. Ад гэтай даты страціла сілу пастанова №28, якая ўстанаўлівала пералік раней. Цяпер у такі пералік уключаныя грэцкія крупы і рапсавы алей.

Парушэнне ўстаноўленага парадку фарміравання і прымянення цэн – гэта неадпаведнасць правілам гандлю некаторымі таварамі, што цягне адміністрацыйную адказнасць.

**Сектар кантролю спажывецкага рынку Камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці.**

# Дайджэст: Вакцынацыя ад кароны, кантроль у навагоднія святы

## Пра што паведамлялі СМІ ў апошні тыдзень года

**Прапануем вам агляд падзей апошняга тыдня ў Беларусі.**

### Галоўны санітарны доктар чакае зніжэння колькасці хворых на COVID-19

Галоўны санітарны доктар Беларусі **Аляксандр Тарасенка** лічыць, што Беларусь ужо выйшла на «стабільны ўзровень захворвання» на COVID-19.

«І ў залежнасці ад таго, як пройдуць святочныя выходныя дні, Новы год, Каляды, можна будзе гаварыць ужо потым пра паступовае зніжэнне захворвання насельніцтва па ўсёй рэспубліцы», заявіў ён.

### Міліцыя ўзмоцніць меры бяспекі ў навагоднія святы

Міліцыя прыме ўсе меры, каб не дапусціць ніводнага надзвычайнага здарэння ў навагоднія святы, заявіла афіцыйны прадстаўнік МУС **Вольга Чамаданава**.

Афіцыйны прадстаўнік МУС звярнулася да жыхароў краіны і гасцей, якія прыедуць на навагоднія святы, з просьбай з разуменнем ставіцца да некаторых мерапрыемстваў, якія будуць праводзіць міліцыянеры. Гаворка ідзе аб прапускным рэжыме, аб наглядных мерапрыемствах, патлумачыла Вольга Чамаданава, удакладніўшы, што гэтыя меры прымаюцца выключна ў мэтах бяспекі.

### Затрыманых па справе прэс-клуба падазраюць у нявыплаце падаткаў

Стваральніца прэс-клуба **Юлія Слуцкая** знаходзіцца ў статусе падазраванай па крымінальнай справе па частцы 2 артыкула 243 КК (Ухіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры). Астатнія – падазраваныя па частцы 6 артыкула 16 (Саўдзел у злачынстве) і частцы 2 артыкула 243.

Цяпер пад вартай застаюцца стваральніца прэс-клуба Юлія Слуцкая, праграмны дырэктар **Ала Шарко**, фінансавы дырэктар **Сяргей Альшэўскі**, кіраўнік Акадэміі прэс-клуба **Сяргей Якупаў**, аператар **Пётр Слуцкі**, сябра Каардынацыйнай рады **Ксенія Луцкіна**.

Як раней паведамляла прэс-служба Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю, у дачыненні да службовых асоб прэс-клуба праводзіцца праверка па фактах парушэнняў падатковага заканадаўства.

22 снежня ў офісе і дома ў супрацоўнікаў прэс-клуба і Ксеніі Луцкінай прайшліператрусы.

### Мінздароўя абвясціла пра пачатак вакцынацыі ад каронавіруса

Першая партыя расійскай вакцыны «Спадарожнік V» прыбыла ў Беларусь.

Міністр **Дзмітры Піневіч** заявіў: «Сёння ў нас пачнецца новы этап – масавая вакцынацыя супраць COVID-19. Першымі будуць вакцынаваныя медыцынскія работнікі, педагогі і тыя спецыялісты, якім у сілу асаблівасці прафесіі даводзіцца шмат кантактаваць з людзьмі. Вакцынацыя будзе праводзіцца ў добраахвотным парадку».

Дзмітры Піневіч таксама дадаў, што ў Беларусі створаная сістэма захоўвання вакцыны, якая дазваляе выконваць халадовы ланцуг, таксама закупленае спецыяльнае медыцынскае маразільнае абсталяванне, што дазваляе транспартаваць вакцыну.

**Паводле АНТ, БелТА, tut.by, Міністэрства аховы здароўя.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**39 500**

столькі кватэр пабудавалі ў Беларусі за 11 месяцаў 2020 года

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 23.12 руб. | 30.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2.5658 | **2.5708** |
| Еўра | 3.1363 | **3.1492** |
| Злоты, 10 | 6.9538 | **6.9898** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4095 | **3.4916** |
| Грыўня, 100 | 9.0901 | **9.0917** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **22.12** | **29.12** |
| Еўра | 3.0700/3.1800 | **3.1000/3.1900** |
| Долар ЗША | 2.5200/2.6100 | **2.5200/2.6000** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **22.12** | **29.12** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,96 | **23,96** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,10 | **3,10** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,87 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,80 | **17,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,40 | **3,40** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **5,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,10 | **2,10** |
| Агуркі, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Авакада, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,60** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## На Віліі затрымалі падводнага паляўнічага

ВІЛЕЙКА

Ноччу 19 снежня на Віліі затрымалі мужчыну, які займаўся падводнай рыбалкай.

Падводная рыбалка тут у прынцыпе забаронена, але ў затрыманага да таго ж не было ніякіх дакументаў, якія дазваляюць гэты занятак. У машыне быў поўны рыштунак для падводнага палявання, у тым ліку і ружжо.

Недалёка ад аўто інспектары знайшлі ёмістасць з рыбай, а ў ёй – 12 шчупакоў, 6 судакоў, 2 ліні, лешч, акунь, карась і дзве чырванакніжныя стронгі. Вага ўлову склала 31 кілаграм. За незаконную здабычу рыбы пачалі крымінальную справу. Прычыненая шкода – амаль 4 400 рублёў.

**Паводле gosinspekciya.gov.by.**

## На Каляды ў пажары загінуў мужчына

АСТРАВЕЦ

У Астравецкім раёне пры пажары ў прыватным доме загінуў мужчына.

25 снежня ў 16:55 паступіла паведамленне аб пажары ў жылым доме ў вёсцы Тракенікі-2. Дом належыць 60-гадовай жанчыне. Знойдзены на пажары загінулы 46-гадовы мужчына жыў у доме з дазволу гаспадыні.

**Паводле БелТА.**

## У агні загінулі мужчына і жанчына

ВІЛЕЙКА

На пажары ў вёсцы Дзямідкі Даўгінаўскага сельсавета загінулі мужчына і жанчына, расказала афіцыйны прадстаўнік абласнога ўпраўлення МНС **Анастасія Швайбовіч**.

Інфармацыя пра ўзгаранне ў жылым доме паступіла ад мясцовых жыхароў 27 снежня ў 6:35. Калі работнікі МНС прыбылі да месца выкліку, дом гараў унутры, дах на момант прыбыцця выратавальнікаў ужо быў знішчаны агнём цалкам.

Пасля ліквідацыі ўзгарання ў доме знайшлі два целы – 49-гадовага мужчыны і 52-гадовай жанчыны. Мяркуецца, яны жылі ў доме.

Паводле папярэдняй інфармацыі Вілейскага РАСК, загінулыя з Вілейкі, у доме жылі ад вясны. Прычыну пажару высвятляюць. Разглядаюць неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

**Аддзел інфармацыі.**

## Кіроўца збіў чалавека на пешаходным пераходзе

МАЛАДЗЕЧНА

28 снежня каля васьмі раніцы кіроўца ехаў па вуліцы Францыска Скарыны ў бок вуліцы Будаўнікоў.

**Ля царквы ён убачыў сілуэт чалавека, што пераходзіў вуліцу па пешаходным пераходзе, – экстранна затармазіў, але ўсё роўна збіў пешахода.**

Пешахода шпіталізавалі. Матэрыялы праверкі знаходзяцца ў ДАІ.

**Аддзел інфармацыі.**

## Смаргонскія памежнікі затрымалі парушальніка

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ

Днём 27 снежня ў шасці кіламетрах ад дзяржаўнай мяжы памежнікі затрымалі 29-гадовага грамадзяніна Беларусі, які спрабаваў незаконна трапіць у Літву. Інфармацыя пра мужчыну паступіла ад мясцовых жыхароў.

Як распавёў афіцыйны прадстаўнік Смаргонскай памежнай групы **Антон Бандарэнка**, у ходзе разбору ўстанавілі, што непрацуючы жыхар Лепельскага раёна хацеў парушыць дзяржаўную мяжу, каб ухіліцца ад пакарання ў выглядзе абмежавання волі з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу. 18 снежня ён быў асуджаны судом Шумілінскага раёна на тры з паловай гады абмежавання волі.

Парушальніка прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці па артыкуле 23.29 КаАП. Ён павінны будзе заплаціць штраф 270 рублёў. Парушальніка перадалі супрацоўнікам Шумілінскага РАУС.

**Паводле osh.by.**



На месцы здарэння.

Фота забеспечанае Дыянай ГАЛУЗАЙ.

# Ля пуцеправода машына спынілася на чыгуначных рэйках

### Кіроўца страціў прытомнасць

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося 28 снежня каля паловы дзясятай раніцы.**

Інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза** расказала, што маладзечанец на аўтамабілі «Форд-Транзіт» ехаў па Віленскай, з'язджаў з пуцеправода і паехаў па Лібава-Роменскай.

Кіроўца пад'ехаў да скрыжавання і страціў прытомнасць. У свядомасць прыйшоў у машыне «хуткай дапамогі».

Ён паведаміў, што знаходзіўся ў стомленым стане, таму што апошнія два дні мала спаў.

Матэрыялы праверкі знаходзяцца ў ДАІ.

**Аддзел інфармацыі.**

## Прачнулася і ўбачыла, што гарыць столь

МАЛАДЗЕЧНА

19 снежня каля паловы ночы на першую ноччу паступіла паведамленне аб пажары ў вёсцы Клочкава. На вуліцы Весёлая гарэў жылы дом.

Як патлумачыў гаспадар дома, бліжэй да вечара ён паліў кацёл на цвёрдым паліве. Праз нейкі час з'явіўся пах гару. Ён абследаваў дом, крыніцы паху не знайшоў. Зрабіўшы дамашнія справы, гаспадар з жонкай заснулі.

**У першай гадзіне ночы жанчына прачнулася ад моцнага паху дыму. Убачыла, што ўжо гарыць столь, пабудзіла мужа.**

Гаспадар дома патэлефанаваў у службу МНС і паведаміў аб пажары. Самастойна гаспадары пакінулі палаючы дом. Яны не пацярпелі, у медыцынскай дапамозе не мелі патрэбы. У доме не было пажарных апавяшчальнікаў, паведамілі ў ГРАНС Маладзечна.

Часта начныя пажары маюць трагічны зыход. Аўтаномныя пажарныя апавяшчальнікі пранізлівым гукам здольныя разбудзіць, тым самым выратаваць ад немінучай смерці.

Прычыну пажару высвятляюць. Разглядаюць парушэнне правілаў мантажу печаў, цеплагенерыруючых агрэгатаў і прылад, а менавіта адсутнасць супрацьпажарнай разздзелкі коміна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Сутыкнуліся «Пежо» і ГАЗ. Пацярпеў пасажыр

ВІЛЕЙКА

25 снежня каля паловы 11 вечара ў Вілейскім раёне сутыкнуліся два аўтамабілі. Здарэнне адбылося на 101-м кіламетры аўтатрасы Мінск-Маладзечна-Нарач, расказалі ў ДАІ Вілейкі.

55-гадовы кіроўца на машыне ГАЗ-3212 пры выездзе з другараднай дарогі сутыкнуўся з «Пежо-Партнёрам». За рулём «Пежо» быў 18-гадовы кіроўца, які рухаўся па галоўнай дарозе з боку Мядзела.

**У выніку аварыі 18-гадовы пасажыр аўтамабіля «Пежо» атрымаў цялесныя пашкоджанні.**

Кіроўцы не пацярпелі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пажарны ў выхадны дзень эвакуіраваў дом падчас пажару ў адной з кватэр

МАЛАДЗЕЧНА

15 снежня ў Радашкавічах гарэла кватэра. Эвакуацыю жыхароў арганізаваў пажарны, які вяртаўся дадому з сям'ёй у выхадны дзень.

Загаранне выявіў адзін з жыхароў пад'езда, які аказаўся начальнікам пажарнай аварыйна-выратавальнай часці №2 Маладзечанскага ГРАНС **Уладзіслаў Паўловіч**. Ён арганізаваў эвакуацыю жыхароў дома і паведаміў пра пажар у службу МНС.

Уладзіслаў Паўловіч расказаў, што ў яго быў выхадны дзень. Ён вяртаўся з сям'ёй з прагулкі.

– Адкрыў дзверы пад'езда, убачыў задымленне. Я падымаўся па лесвіцы на верхні паверх, стукаў у дзверы ўсіх кватэр і прасіў жыхароў тэрмінова пакінуць жыллё. Паралельна паведаміў пра сітуацыю калегам па тэлефоне.

Да прыбыцця пажарных Паўловіч шукаў кватэру, у якой адбыўся пажар. Гэта была двухпакаёвая кватэра на першым паверсе.

– У жылым памяшканні было вельмі моцнае задымленне. Прыйшлося прыкласці пэўныя намаганні, каб гаспадар пакінуў падпаленае памяшканне і не вяртаўся ў яго да прыбыцця выратавальнікаў.

У выніку пажар пашкодзіў мэблю, засталіся закураныя сцены і столь у адным з пакояў.

**Марына ГАНЧАРОВА, ГРАНС Маладзечна.**

# Падарункі – праз вокны

## Дзед Мароз-віляйчук з сябрамі-альпіністамі павіншавалі пацыентаў дзіцячага хірургічнага цэнтра

ВІЛЕЙКА

**– А вы дакладна сапраўдныя?**
**– А ў вас ёсць страхоўка?**
**– Вы паветраныя Дзяды Марозы?**
**– А хто вам даў такія касцюмы?**

Такімі пытаннямі маленькія пацыенты дзіцячага хірургічнага цэнтра ў Мінску закідалі Дзядоў Марозаў-альпіністаў, якія траплялі ў бальніцу праз вокны. Акцыю па ўручэнні падарункаў альпіністы зладзілі 23 снежня.



Злева направа: Герман Волкаў і Дзмітры Субач над мінскім праспектам Незалежнасці.

### І Дзяды Марозы хварэюць на каронавірус

Адзін з Дзядоў Марозаў – віляйчук **Дзмітры Субач**. Разам са сваімі сябрамі і калегамі-прамысловымі альпіністамі **Яўгенам Кудзеркам**, **Канстанцінам Каралём** і **Германам Волкавым** яны зладзілі акцыю па віншаванні дзяцей-пацыентаў сталічнага хірургічнага цэнтра з надыходзячымі святамі.

> **Першапачаткова Дзядоў планавалася шэсць. Але калі напярэдадні ўсе шасцёра здалі тэсты на каронавірус, у двух пацвердзілася хвароба.**

А ўвогуле, на ўсіх трох акцыях хлопцы працавалі практычна аднольkавым складам. Летась нават Снягурка была. А сёлета мусіла застацца з дзіцем на бальнічным.

– Такія акцыі не новыя. У Расіі, Амерыцы, Заходняй Еўропе альпіністы даўно яе прыдумалі. А ў нас усё арганізаваў Канстанцін Кароль, – расказвае Дзмітры перад тым, як падняцца на дах. – Нялёгка бывае сабраць каманду альпіністаў для такой акцыі, а яшчэ цяжэй знайсці спонсара, які гатовы дапамагчы з падарункамі для дзяцей.

> **Дзіма разглядаў магчымасць зрабіць падобную акцыю ў роднай Вілейцы.**

Але, па яго словах, дах у будынку мясцовай дзіцячай бальніцы не падыходзіць для такіх маніпуляцый.

А ў дзевяціпавярховым корпусе бальніцы ляжаць толькі дарослыя.

### Як усё адбывалася

Пакуль Дзіма, Герман і Яўген рыхтуюць абсталяванне на даху, Канстанцін кантралюе сітуацыю знізу. Паміж сабой хлопцы перамаўляюцца па рацыях. Нарэшце ўсё гатова. Альпіністы апранаюць чырвона-белыя касцюмы, бяруць мяшкі з цукеркамі, чапляюць на сябе ўсё неабходнае – і ўзлятаюць над праспектам Незалежнасці да здзіўлення выпадковых прахожых.

Пачынаюць з шостага паверха. Пад радасныя воклічы дзяцей ускокваюць у акно, слухаюць вершы і песенькі, уручаюць падарункі, фатаграфуюцца з усімі ахвотнымі і сыходзяць… таксама праз акно. І так на кожным паверсе. Галоўнае – не забыць прышпіліцца, жартуюць яны перад чарговым спускам.

Медыкі, якія працуюць у цэнтры, ужо добра ведаюць альпіністаў. Падзяліліся, што самі чакаюць іх не менш за дзяцей, каб займець святочны настрой, сфатаграфавацца на памяць і загадаць жаданне.

На пытанне, ці былі падчас падобных акцый пазаштатныя сітуацыі, хлопцы адказваюць станоўча. І прыгадваюць, як у аднаго Дзеда Мароза на вышыні ў спускавую прыладу ўблыталася барада. Ледзь разблыталі.



Тэкст і фота –
Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# 20 Дзядоў Марозаў са Снягуркамі і світамі прайшліся па плошчы

ВІЛЕЙКА

**28 снежня ў Вілейцы, на цэнтральнай плошчы, зладзілі традыцыйнае шэсце Дзядоў Марозаў.**

Першапачаткова абʼявілі, што з-за эпідабстаноўкі шэсця не будзе. Аднак пасля змянілі рашэнне.

Як расказалі ў аддзеле ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама, да ўдзелу ў шэсці запрашалі ўстановы і арганізацыі як з горада, так і з раёна. Па традыцыі, шмат было прадстаўнікоў устаноў адукацыі. Акрамя гарадскіх школ, былі каманды з Любані, Залесся, Сцешыцаў, Куранца.

У Палацы культуры расказалі, што сёлета на шэсце сабралася 20 Дзядоў Марозаў, кожны са Снягуркай і світай.

У некалькіх світах быў сімвал надыходзячага года – Бык. А ў каманды Ільянскага дзяржаўнага аграрнага каледжа жывёл увогуле было шмат – Ліса, Бык, Карова і нават Малпа. За ўсімі наглядаў добры Доктар Айбаліт. Так каманда каледжа прадставіла свой профіль – ва ўстанове навучаюць на ветэрынараў і заатэхнікаў.

У світе Дзеда Мароза з Вілейскага малаказавода была Карова. А каманда з Куранецкай школы забаўляла публіку сваімі нячысцікамі.

Сярод удзельнікаў свята былі таксама ЦРБ, доследны ляскгас, установы культуры, а некаторыя вілейчукі ўдзельнічалі не ад арганізацый, а індывідуальна.

Кожную каманду вядучыя прадстаўлялі, запрашалі на сцэну і ўручалі ёй салодкі падарунак. Завяршылася свята танцавальным флэшмобам і канцэртнай праграмай. А галоўны Дзед Мароз запаліў ялінку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



Галоўны Дзед Мароз запальвае ялінку.




* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

### КУПЛЮ

**• АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Рухавік Д-240, ЗМЗ-53, А-01 у любым стане, запчасткі да іх. Т. (8-029) 6663675.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-павярховы будынак гаража, які стаіць асобна, па адрасе: г. Вілейка, завулак Цяністы, Макаў'е, 86 кв. м, 2003 год пабудовы, два машынамесцы, з ямамі для рамонту плюс два пакоі, плюс раздзявалка, 380 В, вада, вышыня варотаў 4 метры. Аплата па наяўным і безнаяўным разліку. Т. (8-033) 6000797.

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

### ЗДАМ

• У арэнду нежылое памяшканне плошчай 155,3 кв. м па адрасе: г. Маладзечна, вул. Я. Купалы, 110. Т. (8-029) 6195512.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Паслугі сантэхніка. Ацяпленне. Водазабеспячэнне. Усе віды работ. ІП Трубач С.А. УНП 692250027. Т. (8-029) 7018908.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

## РОЗНАЕ



### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Папугая карэла. Т. (8-029) 5019550.*

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Дамашняе малако. Многа. Т. (8-029) 6162240.*

• Фотаапараты «Зеніт», «Альбар», аб'ектывы розныя. Т. (8-029) 2988005.

### АДДАМ

• Аддам дарма тумбу з люстэркам (трэльяж) карычневага колеру, паліраваная, б/у. Т. (8-029) 6458473.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу. (8-029)5019550.*

**ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР** «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – **да 16:00 серады**

Аддзел рэкламы: (8-0176) **53-78-04** (тэл./факс), (8-029) **676-84-20, 573-28-47**
E-mail: **reklama@rh.by**



**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**У вас ёсць магчымасць зрабіць прыемнае родным і блізкім – размясціць віншаванне на старонках нашай газеты!**

Кошт – ад 2,50 рубля.

**Наш адрас:** г. Маладзечна, вул. Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518 (ГЦ «Тройка»)
**Тэл.** (8-0176) **53-78-04**
(8-029) **676-84-20**
(8-029) **573-28-47**



**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Астравец | -01591, | Вілейка | -01771, |
| Ашмяны | -01593, | Маладзечна | -0176, |
| Валожын | -01772, | Мядзел | -01797, |
| | | Смаргонь | -01592. |

# У дзіцячым садку зладзілі выставу, прысвечаную сімвалу 2021 года

СМАРГОНЬ

**У яслях-садку №13, што ў Смаргоні, правялі выставу «Бык-бычок».**

Традыцыйна перад навагоднімі святамі тут ладзяць выставы вырабаў бацькоў і дзяцей.

Дзецям расказалі, што кожны год мае сваю жывёлу-сімвал. Гэта жывёла абяцае поспех і шанцаванне ў многіх справах. Таму так хочацца ёй спадабацца і заручыцца падтрымкай.

**У гэтым годзе выстава «Бык-бычок», прысвечаная сімвалу надыходзячага года – беламу металічнаму Быку. Яна служыць упрыгожваннем дзіцячага садка і выдатнай фотазонай.**

Дзеткі неслі зробленыя імі вырабы на Новы год у групы, каб з гонарам паказаць плён сваёй працы сябрам і выхавальнікам.

Працы афармляліся ў розных тэхніках, былі творчыя і арыгінальныя. Дзеці з бацькамі стараліся, каб іх бычок быў асаблівы, не падобны да іншых.

Дзецям такія вырабы асабліва дарагія, бо ў іх яны ўклалі часцінку сваёй душы.

Цяпер мы з упэўненасцю можам сказаць, што дагадзілі надыходзячаму году і любое пачынанне ў 2021 годзе будзе ўдалае і плённае.

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ,**
**намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці ясляў-сада №13 горада Смаргоні.**
**Фотаздымкі забяспечаны аўтарам.**



Кожнаму дзіцяці хацелася, каб яго Бычок быў адметны.



Жывёл стваралі ў розных тэхніках.




# Чыгунка – зона павышанай небяспекі

**Паважаныя чытачы! Чыгунка – зручны і запатрабаваны від транспарту, якім карыстаюцца мільёны людзей кожны дзень. Павышэнне хуткасці на транспарце выклікала мноства праблем, скараціўшы час знаходжання пасажыраў у дарозе і дастаўкі грузаў, і ў той жа час спарадзіла масу небяспекі для чалавека.**

Штогод пад коламі чыгуначнага транспарту атрымліваюць цяжкія траўмы дзеці і падлеткі. Нямала выпадкаў траўматызму са смяротным зыходам. Чыгунка з'яўляецца зонай павышанай небяспекі: знаходзячыся паблізу пуцей, трэба быць вельмі пільным самому і ўважлівым да навакольных.

Чыгунка для ўсіх, а для дзяцей асабліва – зона павышанай небяспекі. Але, як ні дзіўна, менавіта яна прыцягвае падлеткаў для гульняў, прагулак і забаў. Аднак сумная статыстыка павінна насцярожыць як непаўнагадовых, так і дарослых, нагадаць ім, што толькі ад уважлівасці і захавання строгіх правіл паводзін залежыць здароўе, а часам і жыццё.

**Большасць няшчасных выпадкаў прыпадае на час школьных канікулаў. Самай распаўсюджанай прычынай траўматызму на чыгунцы з'яўляецца хаджэнне па пуцях, пераход іх ва неўстаноўленых месцах.**

У сувязі з сітуацыяй, якая склалася з траўматызмам непаўнагадовых на аб'ектах чыгункі, у мэтах прафілактыкі і папярэджання здарэнняў з удзелам непаўнагадовых, якія знаходзяцца паблізу чыгуначных пуцей, нагадваем асноўныя <u>правілы па бяспечных паводзінах на чыгунцы і аб'ектах чыгуначнага транспарту:</u>

1. Не пераходзьце праз чыгуначныя пуці ў неабсталяваных для гэтага месцах, не перабягайце перад цягніком, які праходзіць. Памятайце, што цягнік адразу спыніць нельга. Цягнік, які ідзе з хуткасцю 100-120 км/гадзіну, за адну секунду пераадольвае 30 метраў. А пешаходу, для таго, каб перайсці праз чыгуначны пуць, трэба не менш за пяць-шэсць секунд.

2. Для пераходу праз чыгуначныя пуці карыстайцеся пераходнымі мастамі, тунэлямі, пешаходнымі насціламі і пераездамі, прыслухоўвайцеся да гукавых сігналаў.

3. Не ідзіце па чыгуначным пераездзе пры забараняльным сігнале святлафора, пераезнай сігналізацыі незалежна ад становішча і наяўнасці шлагбаўма.

4. Не выходзьце на міжпуцце адразу пасля таго, як пройдзе цягнік, пераканайцеся ў адсутнасці цягніка ў сустрэчным кірунку. Не падлазьце пад вагоны саставу, які стаіць. Цягнік у любы момант можа крануцца.

5. У чаканні цягніка, знаходзячыся на платформе, не наладжвайце гульняў і іншых забаў (фота, відэаздымкі) з выхадам на чыгуначны пуць. Не падыходзьце бліжэй за два метры да краю платформы падчас праходжання цягніка, які рухаецца без прыпынку.

6. Каб пазбегнуць паражэння электрычным токам, не залазьце на дахі вагонаў. У кантактнай сетцы высокае напружанне. Не падымайцеся на апоры і спецыяльныя канструкцыі кантактнай сеткі, паветраных ліній і штучных збудаванняў, не дакранайцеся да абсталявання пад вагонамі пасажырскіх і электрацягнікоў, па якім ідзе ток.

7. Пры карыстанні чыгуначным транспартам выконвайце правілы паводзін на вакзалах, праезду ў цягніках.

8. Не падлазьце пад пасажырскія платформы і рухомы састаў, не скачыце з пасажырскай платформы на пуці.

9. Уваходзьце ў вагоны і выходзьце з вагонаў толькі пасля поўнага спынення цягніка і толькі на той бок, які мае пасадачную платформу.

**Забаронена:**

1. Знаходзіцца на аб'ектах чыгуначнага транспарту ў стане алкагольнага ап'янення.

2. Курыць у вагонах (у тым ліку ў тамбурах) цягнікоў рэгіянальных ліній эканом класа, ва неўстаноўленых для курэння месцах у цягніках міжрэгіянальных і міжнародных шляхоў зносін.

3. Бегчы па платформе побач з вагонам цягніка, які прыбывае ці адыходзіць, а таксама знаходзіцца бліжэй за два метры ад краю платформы падчас праходжання цягніка без прыпынку.

4. Класці на рэйкі старонняя прадметы, закідваць цягнікі камянямі і рабіць іншыя супрацьпраўныя дзеянні, бо яны могуць пацягнуць за сабой пашкоджанне чыгуначнай інфраструктуры і гібель людзей.

5. Ехаць на дахах і падножках вагонаў, пераходных пляцоўках і ў тамбурах вагонаў, а таксама на грузавых цягніках.

6. Стаяць на падножках і пераходных пляцоўках, адчыняць дзверы вагонаў на хаду цягніка, затрымліваць адкрыццё і закрыццё аўтаматычных дзвярэй цягнікоў рэгіянальных ліній эканом класа.

7. Пры пераходзе праз чыгуначныя пуці карыстацца сродкамі мабільнай сувязі і навушнікамі.

**Бацькам!**

На чыгунцы забаронена пакідаць дзяцей без нагляду – гэта можа прывесці да трагічных наступстваў. Заўсёды памятайце, што, знаходзячыся на чыгуначных аб'ектах, дзяцей неабходна трымаць за руку ці на руках.

Любое старонняе ўмяшанне ў дзейнасць чыгуначнага транспарту незаконнае, яно праследуецца па законе і цягне за сабой крымінальную і адміністрацыйную адказнасць (за парушэнні правілаў бяспекі дзецьмі адказнасць нясуць іх бацькі).

**Паважаныя чытачы газеты! Мы хочам усім вам пажадаць здароўя і каб вы заўсёды выконвалі правілы паводзін на чыгуначных пуцях, не падвяргалі сваё жыццё і тых, хто побач, небяспецы, не праходзілі міма дзяцей, якія парушаюць правілы паводзін на аб'ектах чыгуначнага транспарту.**

# «Нас часам папракаюць, што малюем шмат хатак»

## Мікола Аўчыннікаў – пра выставу ў Нацыянальным мастацкім музеі і мастакоўскую супольнасць

МАЛАДЗЕЧНА

**У Нацыянальным мастацкім музеі 17 снежня адкрылі выставу маладзечанскіх мастакоў. Выстава ўнікальная, бо на ёй прадстаўленыя працы мастакоў трох пакаленняў, расказала выкладчыца мастацкай школы Алёна Кучко. Выстава будзе працаваць да канца снежня.**

Наведнікі могуць убачыць працы **Ядвігі Раздялоўскай**, **Кастуся Харашэвіча**, **Юрася Герасіменкі-Жызнеўскага**, **Рыгора Мяжуева**, **Міколы Аўчыннікава**, **Васіля Лазоўскага**, іншых.

На адкрыцці прысутнічала дэлегацыя маладзечанскіх мастакоў, іх сябры, калегі, аматары мастацтва, прадстаўнікі Мінаблвыканкама. Пра ўражанні ад выставы і яе значэнне для маладзечанскіх мастакоў – мы пагутарылі з удзельнікам **Міколам Аўчыннікавым**.

– Такая з'ява, калі творы маладзечанскіх мастакоў з Мінскага абласнога краязнаўчага музея выстаўляюцца ў Нацыянальным мастацкім, адбылася ўпершыню. Трапіць сюды складана. Усяго музей з Маладзечна прадставіў каля 60 прац мастакоў розных гадоў, сярод іх і каля 25 маіх. Шкада, што некаторыя творы **Кастуся Харашэвіча**, **Аляксандра Пашкевіча** не ўдалося паказаць з-за іх вялікага памеру. Яны проста не ўлезлі ў транспарт, – расказаў мастак.

Па яго словах, большасць карцін мастакоў з Маладзечна маюць краязнаўчы змест. Гэта звязана са спецыфікай музея, дзе яны захоўваюцца. Гэта рэалістычнае мастацтва, без эксперыментаў. Шмат архітэктурных помнікаў Міншчыны, карцін, прысвечаных гістарычным асобам і падзеям.

– Часам мінскія мастакі нам кажуць, што мы занадта шмат малюем хатак. А калі мы не намалюем сёння самабытную вясковую хату, то заўтра ўбачым яе ўжо абкладзенай сайдынгам. Таму хаткі маляваць трэба, – адзначае Мікола Аўчыннікаў.

Мастак прыгадаў, што ў 1970-80-х гадах у горадзе была моцная мастакоўская супольнасць. Шмат было сяброў Саюза мастакоў. Па словах суразмоўцы, гэта быў залаты час для культуры Маладзечаншчыны. Працавалі мастакі, а з імі і руплівыя краязнаўцы – **Генадзь Каханоўскі** і **Мікола Ермаловіч**.

– Цяпер іншыя часы. Нас, мастакоў з той супольні, засталася палова. Моладзь не асабліва хоча ісці ў мастацтва. Аднак мы працягваем тыя традыцыі. Па вясне плануем зладзіць выставу да стагоддзя краязнаўцы Міколы Ермаловіча.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Мастакі Маладзечанскага краю прыехалі на адкрыццё выставы ў Нацыянальны мастацкі музей.

# Каго мы страцілі ў 2020 годзе

**Мінулы год для многіх з нас стаў годам страт. Давайце прыгадаем тых людзей, якіх мы страцілі летась.**

31 студзеня памёр галоўны рэжысёр Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» **Мікалай Андрэеў**. За месяц да смерці ён адзначыў 63-годдзе. Лялечным тэатрам Андрэеў кіраваў з 2004 года.

16 лютага на 89-м годзе жыцця памерла адзіная выратаваная ў маі 1943 года з вогненнай вёскі Боркі, што на Вілейшчыне, **Фаіна Анасовіч**. Яна жыла ў Рабуні.

Таксама ў лютым, на 104-м годзе жыцця, у Маскве памёр легендарны разведчык, прататып маёра Віхора **Аляксей Бацян**. Ён нарадзіўся 10 лютага 1917 года ў Чартавічах Віленскай губерні. Цяпер гэта вёска ў Валожынскім раёне. Незадоўга да смерці ён наведаў родную вёску, сустрэўся са сваякамі і землякамі.

26 сакавіка памерла жыхарка Валожыншчыны настаўніца **Валянціна Шніп**. Яна нарадзілася ў 1927 годзе. Выкладала беларускую мову і літаратуру. Была заслужанай настаўніцай Беларусі, найстарэйшай жыхаркай вёскі Пугачы.

У маі пасля працяглай хваробы памёр заснавальнік і саўладальнік партала tut.by, мецэнат, грамадскі дзеяч **Юры Зісер**. Нарадзіўся ў Львове ў 1960 годзе.

24 жніўня ў Вілейцы памерла паэтка і журналіст **Клаўдзія Дубовік**. Працавала рэдактарам насценнай газеты завода «Зеніт» у Вілейцы, у рэдакцыі маладзечанскай раённай газеты.

25 кастрычніка памёр кіраўнік заслужанага аматарскага ансамбля песні і танца «Спадчына» маладзечанец **Яўген Гарчанін**. Ён стаў кіраваць ансамблем ад 2016 года, пасля смерці першага кіраўніка **Іосіфа Сушко**. Да гэтага працаваў тут хормайстрам.

4 лістапада пасля хваробы памёр маладзечанец юрыст **Аляксей Хвосцік**. Яму было 73 гады. Нарадзіўся ва Украіне. Быў дэпутатам Мінскага абласнога Савета дэпутатаў часоў станаўлення незалежнасці, уваходзіў у дэмакратычны клуб Маладзечанскага гарадскога Савета дэпутатаў. Як юрыст і праваабаронца дапамагаў маладзечанцам і жыхарам рэгіёна.

У лістападзе ў 42 гады раптоўна не стала нашага калегі **Аляксея Бераснева**. Больш за пяць гадоў аддаў нашаму выданню Аляксей. У 2008 годзе сайт газеты атрымаў дыплом інстытута FOJO, Швецыя, за найлепшы рэдызайн сайта. Тут была вялізная заслуга тэхнічнага рэдактара. Змяняўся выгляд папяровага выдання, усё больш навін нашы чытачы атрымлівалі з сайта. І ўсюды прыкладаў сваю руку Аляксей Берасneў, працуючы ў зладжанай камандзе аднадумцаў. Апошнія гады Аляксей жыў са сваёй сям'ёй за акіянам, але мы заставаліся на сувязі. У рэдакцыі працуе яго мама.

11 лістапада стала вядома пра смерць ураджэнца Вілейкі **Валерыя Шумскага**. Бізнесмену і мецэнату было 60 год. Ён нарадзіўся ў Вілейцы, скончыў БНТУ. Займаўся палiўным бізнесам у Расіі, падтрымліваў беларускія рок-гурты. Уладальнік самай вялікай калекцыі вінілавых пласцінак у Беларусі, а таксама самага вялікага парка рэтра-аўтамабіляў. Шумскі быў №13 у топ-200 самых уплывовых бізнесоўцаў краіны па версіі «Ежедневника». У Вілейцы дзякуючы яго падтрымцы ў парку з'явілася скульптура Маці.

20 лістапада памёр 73-гадовы кампазітар **Алег Залётнеў**. Некалі ён працаваў у Мінскім абласным драмтэатры. Таксама Залётнеў – аўтар оперы «Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт», якая ставілася ў Маладзечне.

24 лістапада блізкія развіталіся з архітэктарам, мастаком і краязнаўцам, вілейчуком **Анатолем Капцюгом**. Яму было 68. Анатоль Іванавіч быў сябрам і аўтарам «Рэгіянальнай газеты». Ён вёў праект «Школка дзядзькі Капцюга», дзе дзяліўся ведамі па беларускай этнаграфіі. Капцюг – аўтар памятных дошак гістарычным асобам на Вілейшчыне, рэканструяваў Цэнтральную плошчу Вілейкі і фантан на ёй.

Таксама ў лістападзе не стала ўраджэнца Смаргоні дыпламата **Уладзіміра Шчаснага**. Ён нарадзіўся ў 1948 годзе. Апошнія гады з'яўляўся кансультантам Упраўлення інфармацыйнай палітыкі «Белгазпрамбанка», які ўзначальваў Віктар Бабарыка.

13 снежня памёр віляйчук, гісторык і журналіст, былы дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар**. Сяргей – аўтар шматлікіх публікацый па гісторыі Вілейшчыны, распрацоўшчык музейна-адукацыйных праграм, культурна-мастацкіх праектаў. Апошнія гады працаваў галоўным рэдактарам вілейскай раённай газеты. Яму было 39 гадоў. Пахавалі Сяргея Ганчара на малой радзіме – у Рабуні.

Таксама ў снежні пайшоў з жыцця першы прэм'ер-міністр незалежнай Беларусі ўраджэнец Валожыншчыны **Вячаслаў Кебіч**. Яму было 84 гады. Вячаслаў Францавіч нарадзіўся 10 чэрвеня 1936 года на Валожыншчыне, у вёсцы Канюшаўшчына. Быў дырэктарам Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кірава, другім сакратаром Мінскага гарадскога камітэта, а затым абласнога камітэта КПБ.

У снежні памёр старшыня Гальшанскага сельвыканкама **Вайцех Коўзан**. У яго быў каронавірус. Старшыні было 59 год. Ён нарадзіўся ў Барунах, там быў кіраўніком мясцовай гаспадаркі. Ад 2018 года абраны старшынёй Гальшанскага сельвыканкама. Дбаў пра развіццё здаровага ладу жыцця ў Гальшанах, удзельнічаў у міжнародных праектах. У 2019 годзе нашы карэспандэнты сустракаліся з Вайцехам Іванавічам і бралі ў яго каментар наконт будаўніцтва.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

# 2021

| | |
|---|---|
| **1 студзеня** | Новы год |
| **7 студзеня** | Каляды праваслаўныя |
| **8 сакавіка** | Жаночы дзень |
| **4 красавіка** | Вялікдзень каталіцкі |
| **28 красавіка** | 26-годдзе «Рэгіянальнай газеты» |
| **1 мая** | Дзень працы |
| **2 мая** | Вялікдзень праваслаўны |
| **9 мая** | Дзень Перамогі |
| **11 мая** | Радаўніца |
| **3 ліпеня** | Дзень Незалежнасці |
| **7 лістапада** | Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі |
| **25 снежня** | Каляды каталіцкія |

| | Студзень | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| **Аўт** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **Ср** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Чц** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Пт** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Сб** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Ндз** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

| | Люты | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Пн** | 1 | 8 | 15 | 22 |
| **Аўт** | 2 | 9 | 16 | 23 |
| **Ср** | 3 | 10 | 17 | 24 |
| **Чц** | 4 | 11 | 18 | 25 |
| **Пт** | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **Сб** | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Ндз** | 7 | 14 | 21 | 28 |

| | Сакавік | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Аўт** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Ср** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Чц** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Пт** | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Сб** | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **Ндз** | 7 | 14 | 21 | 28 | |

| | Красавік | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **Аўт** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Ср** | | 7 | 14 | 21 | **28** |
| **Чц** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Пт** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Сб** | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| **Ндз** | 4 | 11 | 18 | 25 | |

| | Май | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Аўт** | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Ср** | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Чц** | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **Пт** | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| **Сб** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| **Ндз** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

| | Чэрвень | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Аўт** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Ср** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Чц** | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| **Пт** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Сб** | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Ндз** | 6 | 13 | 20 | 27 | |

| | Ліпень | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **Аўт** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Ср** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Чц** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Пт** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Сб** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Ндз** | 4 | 11 | 18 | 25 | |

| | Жнівень | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Аўт** | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Ср** | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Чц** | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Пт** | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **Сб** | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| **Ндз** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

| | Верасень | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Аўт** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Ср** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Чц** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Пт** | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| **Сб** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Ндз** | 5 | 12 | 19 | 26 | |

| | Кастрычнік | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| **Аўт** | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| **Ср** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Чц** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Пт** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Сб** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Ндз** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

| | Лістапад | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Аўт** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Ср** | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| **Чц** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Пт** | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| **Сб** | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| **Ндз** | 7 | 14 | 21 | 28 | |

| | Снежань | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Пн** | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| **Аўт** | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| **Ср** | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| **Чц** | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| **Пт** | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| **Сб** | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| **Ндз** | 5 | 12 | 19 | 26 | |

# Маладзечанца асудзілі за абразу начальніка міліцыі

**Напрыканцы снежня ў маладзечанскім судзе разгледзелі крымінальную справу Паўла Бераснева. Яго абвінавачвалі ў абразе начальніка мясцовага РАУС Вадзіма Прыгары.**



Павел Берасneў абвяргае, што абразіў Вадзіма Прыгару.

Судовы разбор вяла суддзя **Вікторыя Паляшчук**. Дзяржаўным абвінаваўцам выступіла памочнік пракурора **Алена Балоціна**. Абвінавачанага абараняў адвакат **Алег Пятроў**.

**Павел Берасneў** – былы следчы маладзечанскай міліцыі, дзе ён працаваў у 1990-х. Яго абвінавачвалі па артыкуле 369 «Абраза прадстаўніка ўлады» Крымінальнага кодэкса Беларусі. Па матэрыялах справы, увечары 13 верасня Берасneў намаляваў на будынку па вуліцы Віленскай 23-б у Маладзечне надпіс, які заяўнік расцаніў як абразлівы. Абвінавачаны не прызнаў віну.

### Пацярпелы Прыгара

Начальнік Маладзечанскага РАУС **Вадзім Прыгара** расказаў на пасяджэнні, што ў першай палове верасня на будынку размяшчалі надпісы, якія прыбіралі камунальныя службы, але яны зноў з'яўляліся на наступны дзень. Міліцыя прыняла комплекс мер, каб злавіць правапарушальніка.

Начальнік маладзечанскай міліцыі палічыў, што надпіс, які намаляваў Берасneў, датычацца асабіста яго. Бо ў Маладзечне і раёне няма людзей з такім прозвішчам. Гэта ён праверыў па тэлефонным даведніку.

– Лічу, што чалавек павінны за гэта адказаць. Чалавек павінны панесці пакаранне з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову, – сказаў Прыгара адносна магчымага пакарання.

Прыгара падаў грамадзянскую позву на пакрыццё маральнай шкоды. Ён ацаніў яе ў 10 тысяч рублёў. Прыгара збіраецца аддаць гэтыя грошы ў дом-інтэрнат у Радашкавічы.

Адвакат Пятроў папрасіў Прыгару абгрунтаваць суму маральнай шкоды.

– Мне было непрыемна. Прыходзілі грамадзяне і пыталіся, хіба гэта вас не абражае ці не можаце знайсці парушальніка. Таксама званілі з райвыканкама, што шмат выдаткавалі на фарбу, каб замаляваць.

З Берасневым Прыгара сустрэўся пасля яго затрымання, праводзіў з ім прафілактычную гутарку.

**Берасneў**: Ці выказвалі вы пагрозы пасадзіць мяне ў турму?

**Прыгара**: Не.

### Сведкі Закамскі і Якаўлеў

**Захар Закамскі** і **Іван Якаўлеў** працуюць міліцыянерамі патрульна-паставой службы Маладзечанскага РАУС. Увечары 13 верасня міліцыянеры ўбачылі Бераснева ля будынка па Віленскай, той ішоў з пакетам і, па іх меркаванні, вёў сябе падазрона. Таму супрацоўнікі вырашылі прасачыць за Берасневым.

Яны абышлі будынак, убачылі, што Берасneў нешта малюе балончыкам на сцяне збудавання. Бераснева схапілі, пырснулі газам у твар і надзелі кайданкі. Затым даставілі ў аддзел міліцыі.

### Сведкі Кужоўнікі

Увечары 13 верасня **Ілона Кужоўнік** разам са сваім мужам **Дзмітрыем** была ў гасцях у хроснай **Ірыны Перлашкевіч** і яе грамадзянскага мужа Паўла Бераснева. Яны разам вячэралі, пасля Берасneў адвёз Кужоўнікаў дадому. Яны не бачылі ў Бераснева балончык з фарбай, не размаўлялі з ім пра палітычную сітуацыю ў краіне. Пра яго затрыманне Кужоўнікі даведаліся ад Перлашкевіч.

### Эксперт-лінгвіст Чарняцоў

**Аляксей Чарняцоў** – дзяржаўны судовы эксперт дзяржаўнага Упраўлення судовых экспертыз. Сведчыў праз відэасувязь у Мінскім абласным судзе.

Чарняцоў зрабіў экспертызу, у якой выявіў, што ў надпісе Бераснева была негатыўная ацэнка асобы Прыгары.

Адвакат адзначыў, што эксперт напісаў у экспертызе не ўсе тлумачэнні абрэвіятуры, якая абразіла пацярпелага Прыгару. Па словах абаронцы, у слоўніках ёсць іншае тлумачэнне абрэвіятуры: «чалавек мала адукаваны» (рус. «человек мало образованный»). Абвінавачаны расшыфроўвае абрэвіятуру, якая была ў надпісе, як «чалавек Мінскай вобласці» (рус. «человек Минской области»).

Эксперт удакладніў, што абрэвіятура, якая фігуравала ў надпісе, не з'яўляецца зняважлівай. Па яго словах, абрэвіятура з'яўляецца нармальнай у кантэксце надпісу.

### Грамадзянская позва ад кампаніі Батана і яго сведчанні

**Ірына Како** – намеснік дырэктара па эканоміцы і фінансах прыватнага ўнітарнага прадпрыемства «Пані». Яна заявіла грамадзянскую позву аб пакрыцці матэрыяльнай шкоды. Како паведаміла, што Берасneў ужо аплаціў 307 рублёў, аднак кампанія гэтым незадаволеная.

– На будынках кампаніі чатыры разы малявалі надпісы. У судзе разглядаецца толькі адзін выпадак, але мы лічым, што спадар Берасneў вінаваты ва ўсіх чатырох выпадках. Мы падаём грамадзянскую позву на 5476,40 рубля.

Дырэктар «Пані» **Аляксандр Батан** заяўляў у міліцыю, што будынак размалёўваюць. Намеснік начальніка міліцыі папрасіў Батана даць ключы ад будынка, каб зрабіць там аблаву.

– Я бачыў надпіс раніцай наступнага дня. Потым прыехалі камунальнікі і зафарбавалі яго. Па гэтым эпізодзе закранула толькі панэлі. Гэтыя панэлі не замянілі.

Батан ацаніў шкоду ў 1805,15 рубля.

### Паказанні Бераснева

Паказанні Бераснева сходзяцца з паказаннямі сведкі Ілоны Кужоўнік. Пасля таго, як Берасneў адвёз Кужоўнікаў дадому, ён вярнуўся да Перлашкевіч. Пакінуў у дварах аўтамабіль, нейкі час гуляў. Пасля спыніўся каля будынка па Віленскай 23-б, дастаў з пакета балончык з сіняй фарбай і пачаў пісаць надпіс на сцяне збудавання. Ён не ведае, чаму вырашыў гэта зрабіць.

– Магчыма, я хацеў нешта сабе даказаць. Хацеў зрабіць фота, потым замаляваць надпіс. Фота не збіраўся распаўсюджваць. Мой учынак быў імпульсіўны.

Потым Берасneў пабачыў, як да яго бег невядомы. Ён развярнуўся ў іншы бок, яго схапіў іншы чалавек. Берасneў не разумеў, што гэта супрацоўнікі міліцыі. Тыя надзелі кайданкі, а на просьбу паказаць пасведчанне пырснулі пярцовым балончыкам у твар.

Пры затрыманні хтосьці з міліцыянераў сказаў, што Берасneў добра ўліп, бо зрабіў надпіс пра начальніка міліцыі. Берасneў баяўся, каб яго дзеянні не кваліфікавалі як хуліганства, таму прыдумаў матыў, што надпіс не датычыцца начальніка Маладзечанскага РАУС.

Берасneў адзначае, што напісаў пра **Міхаіла Прыгару**, якому Вярхоўны суд прысудзіў тры гады за карупцыйныя злачынствы. Абвінавачаны не прызнаў грамадзянскія позвы ад кампаніі «Пані» і Вадзіма Прыгары.

Берасneў адзначыў, што ў аддзеле міліцыі пры складанні пратакола апытання яго трымалі ў кайданках і не давалі памыць твар пасля пярцоўкі. Ён палічыў гэта катаваннямі. У апошнім слове Павел Берасneў сказаў, што яго віна не даказаная, а паказанні сведкаў Закамскага і Якаўлева былі непаслядоўнымі.

### Прысуд

Дзяржаўны абвінаваўца наадварот палічыла віну Бераснева даказанай і запрасіла для яго паўтара года абмежавання волі з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу. Яна прасіла знізіць колькасць сумы па грамадзянскай позве Прыгары да разумнай, а позву ад кампаніі «Пані» разгледзець у грамадзянскай судаводстве.

Суддзя Вікторыя Паляшчук прызнала Паўла Бераснева вінаватым. Берасневу прысудзілі 1 год і 6 месяцаў абмежавання волі ў выпраўленчай калоніі адкрытага тыпу.

Кампенсацыя за маральную шкоду начальніку Маладзечанскага РАУС Вадзіму Прыгары склала 4 тысяч рублёў.

Грамадзянскую позву ад кампаніі «Пані» будуць разглядаць у грамадзянскай судаводстве.



Тэкст і фота –
Настасся
УТКІНА
anastasiautkina94
@gmail.com
(8-0176)
53-78-06

# Адміністратар «Каратели Молодечно» расказаў пра затрыманне і суткі

**Пагутарылі з адміністратарам тэлеграм-канала «Каратели Молодечно» 18-гадовым Аляксеем Крэнцем, якога абвінавацілі па крымінальнай справе за абразу службовай асобы.**



Цяпер Аляксей Крэнць знаходзіцца за мяжой.

### Затрыманне,ператрус, Вілейка

Супрацоўнікі ГУБАЗіК прыйшлі дамоў да Аляксея каля 21 гадзіны 19 снежня. Званілі і грукалі ў дзверы, аднак ён не адчыніў. Пасля патэлефанавалі на мабільны тэлефон, Аляксей сказаў, што прыйдзе да супрацоўнікаў толькі па позве.

– Але калі сказалі, што справа тычыцца майго сябра, які скончыў жыццё самагубствам, то я да іх выйшаў.

Спачатку Аляксея дапытвалі пра сябра, а пасля пачалі задаваць пытанні пра тэлеграм-каналы.

– Адзін з іх адкрыта сказаў: яны ведаюць, што я адміністратар тэлеграм-канала «Каратели Молодечно». Сказалі, што калі прызнаюся, то мне дадуць толькі штраф. Пасля ў мяне дома канфіскавалі рэчы: ноўтбук, тэлефон, флэшку.

**Падчасператрусу Крэнць быў у кайданках, адзін супрацоўнік увесь час загадваў яму прызнацца, бо ў іншым выпадку пасадзяць.**

Пасляператрусу хлопца павезлі ў Вілейку. Там міліцыянер пачаў запаўняць дакументы, але пасля сказаў, што не мае права забіраць хлопца. Па словах Крэнця, з гэтым міліцыянерам пасля размаўляў нехта з супрацоўнікаў ГУБАЗіК, і ён усё-ткі склаў пратакол.

У Вілейцы супрацоўнік ГУБАЗіК запісаў відэа на фоне дзяржаўнага герба, у якім Аляксей кажа, што з'яўляецца адміністратарам тэлеграм-канала.

### Ізалятар у Маладзечне

Пасля афармлення пратакола ў Вілейцы хлопца адвезлі ў Маладзечанскі РАУС. Там спачатку пасадзілі ў «стакан» без курткі і ўключылі вентыляцыю, а пасля адвялі ў ізалятар часовага ўтрымання.

– У ізалятары са мной сядзеў чалавек, які пытаўся пра палітычныя погляды. Казаў, што ўсё роўна нічога не зменіцца. Ён жа спрабаваў даведацца пра канал. Казаў, што сядзеў 20 год, але думаю, ён супрацоўнічае з міліцыяй.

Крэнцу прасілі прызнацца ў аддзяленні, але хлопец не памятае, супрацоўнікі якой структуры з ім працавалі.

– Тады ўжо казалі, што будзе «хімія» ці вялікі штраф, але трэба прызнацца.

Крэнцу інкрымінавалі артыкул 369 Крымінальнага кодэкса: «Абраза прадстаўніка ўлады». А пасля змянілі на артыкул 188 – «Паклёп».

20 снежня зноў адвезлі ў Вілейку, ужо да следчага. Там Аляксей прызнаў віну.

### «Дзядуля за свае грошы зрабіў ім сімку»

З Вілейкі Крэнца прывезлі ў маладзечанскі ізалятар. Супрацоўнікі спрабавалі даведацца пароль ад акаўнта ў тэлеграме, прасілі паролі ад электроннай пошты. Крэнць даваў розныя варыянты пароляў, але яны не падыходзілі. Таму супрацоўнікі зрабілі яшчэ адну сім-карту.

– Насамрэч, гэта зрабілі не яны, а дзядуля. Яны спецыяльна забралі яго з працы, а дзядуля за свае грошы зрабіў ім сімку. Але сапраўдны пароль я не сказаў. Мяне пакінулі супрацоўніку, не памятаю, адкуль ён. Можа, гэта хтосьці са следчых. Ён пытаўся, навошта мы гэта ўсё робім, бо ім усё роўна пляваць.

На наступны дзень супрацоўнікі зноў прыйшлі да Аляксея. Яны папрасілі напісаць усе адрасы электроннай пошты і магчымыя паролі. Крэнць гэта зрабіў, але яны зноўку не падышлі. На гэты момант ужо прайшлі 72 гадзіны, якія хлопца маглі ўтрымліваць у ізалятары.

– Прыйшоў следчы, сказаў мне падпісаць нейкую паперу. Праз некалькі гадзін мяне адпусцілі. Напэўна, я абвінавачваюся па крымінальнай справе.

Па словах Аляксея Крэнца, цяпер ён знаходзіцца ў бяспечным месцы.

У тэлеграм-канале «Каратели Молодечно» выкладалі дадзеныя супрацоўнікаў сілавых структур, чыноўнікаў і суддзяў з інфармацыяй пра іх дзейнасць на пасадах і падчас і пасля сёлетняй прэзідэнцкай выбарчай кампаніі.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

## Справа па блакіроўцы Вялікага Гасцінца ў Маладзечне працягваецца

**23 снежня прэс-служба МУС Беларусі паведаміла, што затрымала яшчэ трох чалавек па справе аб блакіроўцы Вялікага Гасцінца. Раней было вядома пра двух затрыманых маладзечанцаў.**

Супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС і ГУБАЗіК высветлілі, што ў акцыі ўдзельнічалі пяцёра чалавек. Нагадаем, што 21 лістапада на скрыжаванні Вялікага Гасцінца і Багдана Хмяльніцкага людзі перакрылі рух на паўтары хвіліны, у іх у руках была расцяжка з надпісам «Пакуль у краіне беззаконне, супраціўленне – наш доўг».

Маладзечанскі аддзел СК узбудзіў крымінальную справу па арт. 342 «Арганізацыя групавых дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак і пацягнулі парушэнне работы транспарту». Па гэтай частцы прадугледжанае пакаранне ў выглядзе штрафу, арышты, абмежаванне волі ці пазбаўленне волі на тэрмін да трох год.

Затрыманымі маладзечанцамі былі **Дзмітры Карабейнік** і **Рыгор Саладоўнікаў**. На пачатку снежня незарэгістраваны праваабарончы цэнтр «Вясна» прызнаў іх палітычнымі вязнямі. Трыма іншымі затрыманымі аказаліся **Эліна Карыцька**, **Сяргей Сідаровіч** і **Ігар Сідаровіч**. Па інфармацыі праваабаронцы, яны цяпер знаходзяцца на волі пад падпіскай.

**Настасся УТКІНА.**

# Смаргонскі дзюдаіст падпісаў ліст за сумленныя выбары і спыненне гвалту. Пасля яго выключылі са зборнай

**Смаргонскі дзюдаіст Аляксандр Вахавяк яшчэ ў жніўні падпісаў ліст Свабоднага аб'яднання спартсменаў за сумленныя выбары і спыненне гвалту. Пасля ён даведаўся аб выключэнні са зборнай краіны. Расказваем яго гісторыю.**




Аляксандр Вахавяк.

### Подпіс пад лістом і ўсведамленне наступстваў

Аляксандр Вахавяк родам са Смаргоні, займаецца дзюдо з дзяцінства. Ён быў адным з першых беларускіх адзінаборцаў, які падпісаў ліст за сумленныя выбары і спыненне гвалту.

Па словах Вахавяка, пасля падпісання ліста разумеў, што будуць наступствы. Разам з ім ліст падпісаў яшчэ адзін вядомы дзюдаіст **Дзмітры Шэршань**.

– Разлічвалі, што ўсё адбудзецца хутка, але чамусьці ўвесь працэс зацягнуўся на два месяцы. Тым не менш, увесь гэты час мы чакалі рашэння і разумелі, што чыноўнікі паступяць радыкальна. Калі ты не даспадобы ім – адпаведна, бывай, – расказваў Вахавяк.

Пасля падпісання Вахавяка і Шэршаня праз некалькі дзён выклікаў да сябе намеснік міністра спорту **Аляксандр Баравуля**. На гэтай сустрэчы намеснік міністра цікавіўся, ці чыталі спартсмены ліст і ці не ціснулі на іх падпісацца. Праз тыдзень яшчэ ў жніўні дзюдаістаў адкамандзіравалі на службу. Аляксандр Вахавяк працаваў капітанам у Дэпартаменце аховы МУС.

### Атэстацыя і праца ў Дэпартаменце аховы

Вахавяк паехаў на службу, чакаў вынікаў атэстацыі ў нацыянальную зборную. Атэстацыю ён не прайшоў, таму быў выключаны са складу зборнай.

– У МУС быў складзены ліст за подпісам міністра **Юрыя Караева**. Яго адправілі ў Мінспорту, але адказ, падпісаны міністрам **Сяргеем Кавальчуком**, дзесьці згубіўся, да маіх начальнікаў не дайшоў. У ім сказана, што ў якасці пакарання мяне трэба адкамандзіраваць на службу ў Дэпартамент аховы на тэрмін два месяцы – ад верасня да кастрычніка.

Вахавяку паведамілі, што 15 верасня яму трэба выходзіць на службу. Нейкі час спартсмен быў на службе, а потым узяў бальнічны – так дачакаўся вынікаў атэстацыі. Калі ён даведаўся, што яго не атэставалі, то папрасіў аб звальненні на службе. Яму адказалі, што не могуць звольніць па дамове бакоў.

– Я тады проста не выйшаў у сваю змену, і мяне звольнілі за прагул. Артыкул у працоўнай? А што рабіць? У мяне кантракт быў яшчэ на два гады. І што, мне кінуць спорт і хадзіць на службу? Сумяшчаць трэніроўкі і працу проста нерэальна, таму што звычайна я ад'язджаў у сем раніцы з дому і вяртаўся толькі ў 21:30.

Па словах дзюдаіста, пасля завяршэння кар'еры ён не збіраўся заставацца ў Дэпартаменце аховы.

### «Ёсць жыццё ў Беларусі да 9 жніўня, а ёсць пасля»

Вахавяк прызнаецца, што свой выбар па падпісанні ліста зрабіў свядома, нікога не агітаваў рушыць услед за ім. Па яго меркаванні, кожны павінны самастойна прыняць рашэнне, зрабіць крок, таму дзюдаіст ні на каго не ўплываў і нікога не прасіў падпісаць ліст.

> **– Мы з камандай былі на зборах, размаўлялі з Дзімам Шэршанем з нагоды ўсёй сітуацыі ў краіне, у працэсе дыялогу прыйшлі да высновы, што нельга заставацца ўбаку і маўчаць.**

Вахавяк лічыць, што жыццё ў Беларусі пасля прэзідэнцкіх выбараў змянілася. Ён кажа, што ёсць жыццё ў Беларусі да 9 жніўня, а ёсць пасля.

**– Хто галоўны вінаваты ў цяперашніх падзеях у краіне?**

– Не думаю, што вінаваты адзін чалавек. Хутчэй, уся сістэма, сфарміраваная гадамі, за 26 гадоў.

Вахавяк не шкадуе, што падпісаў ліст. Ён кажа, што першы час было складана: трэніруешся, атрымліваеш заробак, грошы для сям'і, а пасля ставіш подпіс і чакаеш наступстваў.

– Цалкам усё перакрэсліваеш. І задумваешся, як карміць сям'ю, а ў мяне жонка яшчэ ў дэкрэтным адпачынку. Ты выходзіш з зоны камфорту, і гэта цяжка маральна прыняць. Але нічога, мяне блізкія і сябры падтрымалі, запэўнілі, што ўсё будзе нармальна.

> **Я прааналізаваў сітуацыю, рукі і ногі ёсць – зароблю ў любым выпадку.**

### Фонд спартыўнай салідарнасці дапамог Вахавяку

22 снежня стала вядома, што Фонд спартыўнай салідарнасці ад Свабоднага аб'яднання спартсменаў дапамог Аляксандру Вахавяку прыняць удзел у міжнародным зборы ў Турцыі. Праз звальненне і неатэстацыю дзюдаіст выпаў з трэніровачнага працэсу на два месяцы, а пасля перахварэў на каронавірус.

– Набіраю форму і разглядаю збор, як падрыхтоўчы этап да турніру серыі «Мастэрс», які пройдзе 11-13 студзеня. У Катар спаборнічаць прыедуць 36 наймацнейшых дзюдаістаў у сусветным рэйтынгу, і я ў іх ліку.

**Настасся УТКІНА**
**па матэрыялах «Трыбуны».**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Вузкі паток вады або вадкасці.
3. Кандытарскі выраб, які атрымліваецца шляхам перапрацоўкі зерня какавы з цукрам і дадаваннем розных смакавых і пахучых прыпраў.
4. Змяненне бачнага размяшчэння аб'екта адносна аддаленага фону ў залежнасці ад становішча назіральніка. На гэтай з'яве заснаваны бінакулярны зрок – як у чалавека.
5. Што ў Дэкларацыі правоў і абавязкаў чалавека і грамадзяніна 1795 года інтэрпрэтавалі як магчымасць рабіць усё, што не шкодзіць іншым?
11. Назавіце французскага мадэльера, якой належаць словы: «Калі вы хочаце мець тое, што ніколі не мелі, вам давядзецца рабіць тое, што ніколі не рабілі».
12. Скрынка з невысокімі сценкамі і дном, зробленая з дошак ці фанеры, якая служыць для захоўвання, складвання рэчаў.
13. Тонкая бавоўняная тканіна з рэдка пераплеценых нітак.
16. Што агульнага ў сіцыліянскай абароны, зоркі Этамін і легенды аб аргаnаўтах?
17. Дзіця савы.
18. Адзін рух пэндзля пры накладанні фарбы, а таксама слой фарбы, накладзены такім спосабам.
20. Газета, у якой быў надрукаваны «Адкрыты ліст Янкі Купалы» з адрачэннем ад нацыянальнай ідэі, які зломлены пясняр падпісаў у шпіталі.
21. Прастора зямной паверхні, якая занятая або можа быць занятая кім-небудзь або чым-небудзь.
22. Падчас гладыятарскіх баёў звычайна давалі па два выступленні за дзень. Сенека пісаў пра гэта: «Раніцай людзей аддаюць на разарванне львам і мядзведзям, а вечарам – на разарванне …» Таму што менавіта яны вырашалі лёс гладыятараў.
24. Узаемаразмяшчэнне і сувязь састаўных частак аб'екта, якія забяспечваюць яго цэласнасць; будова.
26. У Дэкларацыі правоў і абавязкаў чалавека і грамадзяніна 1795 года гэта тлумачылі як аднолькавы доступ да ўсіх пастоў, публічных пасад і заняткаў адпаведна здольнасцям і без іншых адрозненняў, акрамя абумоўленых дабрачыннасцю і здольнасцямі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Васіль Быкаў: «Пакуты робяць чалавека чалавекам. Чалавек без пакут – …».
6. Астатак, розніца паміж прыходам і расходам рахунку.
7. Вельмі разважлівы, дасведчаны і разумны чалавек.
8. Мыльная духмяная вадкасць або парашок для мыцця галавы.
9. Дапамагаць, садзейнічаць.
10. Пад'ём на вяршыню гэтай гары лічаць не вельмі складаным, але ахвяр тут больш, чым пры пад'ёме на Эверэст. Таму што гара знаходзіцца ў Еўропе, і ахвотных падняцца нашмат больш, і многія аматары не звяртаюцца па дапамогу прафесіяналаў.
13. Пасля таго як акцёр Аляксандр Хвыля зняўся ў гэтай навагодняй казцы, ён больш за дзесяць год выконваў ролю Дзеда Мароза на крамлёўскай ёлцы, і яго ўспрымалі як сапраўднага, які прыйшоў проста з казкі.
14. Быць, знаходзіцца ў стане сну.
15. У 1979 годзе Максім Танк прымаў замежную дэлегацыю на Вілейшчыне – генеральнага консула ПНР у Беларусі, генеральнага консула ГДР у Беларусі і генеральнага консула ГДР у СССР і іншых высокапастаўленых асоб. Якое мерапрыемства арганізаваў для іх Максім Танк з дапамогай дырэктара лясгаса Мікалая Шчаснага?
18. Млекакормячая жывёліна, якая па будове свайго цела з'яўляецца самай блізкай да чалавека.
19. Максім Танк: «Чалавек паміраe, калі страчвае здольнасць … і захапляцца жыццём».
23. У Дэкларацыі правоў і абавязкаў чалавека і грамадзяніна 1795 года гэта азначае не рабіць іншым тое, што не хацеў бы атрымаць сам, а рабіць у адносінах да іншых такія добрыя ўчынкі, якія хацеў бы атрымаць у адносінах да сябе.
25. Максім Багдановіч: «Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы … ляцім да зор?»
27. Фараон Рамзэс II апісваў паход супраць хетаў так: «Са мной былі «Перамога каля Фіваў» і «Бадзёрасць духу». Хто насіў такія імёны?

## Адказы на крыжаванку з №52

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Пах. 2. Юравічы. 4. Незнарок. 6. Папера. 8. Лялька. 9. Рабства. 10. Набор. 11. Ліміт. 12. Радыё. 16. Танга. 17. Справа. 18. Лічба. 19. Гаіці. 22. Калядкі. 23. Фасон.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Пагарда. 3. Турысты. 5. Ніша. 7. Напракат. 8. Лямант. 10. Назад. 13. Бастылія. 14. Міраж. 15. Нагар. 17. Секцыя. 20. Абсурд. 21. Аўта. 24. Кенгуру. 25. Свіст.

● ГАРАСКОП НА 1-7 СТУДЗЕНЯ


**АВЕН.** Вас падзеі закрануць мацней, чым астатнія знакі. У вашым жыцці будзе нешта разбурацца. Вы можаце крыўдаваць з гэтай нагоды, але калі пагледзіце аб'ектыўна, то зразумееце, што зруйнавалася тое, што даўно трэба было прыбраць.


**ЦЯЛЕЦ.** Тыдзень пройдзе так, як вы самі б хацелі. Паспрабуйце накіроўваць энергію ў першую чаргу, каб прыбраць тое, што замінае. А пасля ўсе астатнія задумы пойдуць прасцей і хутчэй.


**БЛІЗНЯТЫ.** Зоркі зробяць вас больш сур'ёзнымі ў кантактах і завостраць увагу на дзелавым жыцці. Вы атрымаеце нечаканую і карысную вестку на самыя актуальныя тэмы. Будзьце пільныя з грашыма.


**РАК.** Галоўны акцэнт будзе на ўзаемаадносіны. Вам стане важна з кімсьці дамовіцца. Важнае пытанне будзе залежаць ад іншага чалавека. Пачнеце вырашаць задачы асабістых адносін або партнёрства ў бізнесе.


**ЛЕЎ.** Будзе не лішнім сачыць за здароўем. Адной з самых перспектыўных апынецца сфера партнёрскіх адносін у бізнесе і асабістым жыцці. Адпачыць зможаце ў нядзелю, калі скончацца ўсе напружаныя аспекты.


**ДЗЕВА.** У вас ёсць усе падставы імкнуцца правесці будні як мага спакайней, каб не нажыць праблем. Затое выхадныя апынуцца добрымі. Выхадныя абяцаюць быць роўнымі і камфортнымі, удалымі для практычных спраў.


**ШАЛІ.** У нядзелю вы будзеце шмат размаўляць з цікавымі вам людзьмі. Вельмі важныя будуць рабочыя пытанні, таму што могуць прынесці шмат карыснага ў перспектыве. Будзьце ўважлівыя з незнаёмымі людзьмі.


**СКАРПІЁН.** Адчуеце прыліў сіл, каб перарабіць велізарную кучу працы або справіцца з цяжкай задачай. Будзеце вычышчаць, вызваляць, выкідваць: пазбавіцеся ад зламаных рэчаў і вырашыце нарэшце пытанне, якое вісела доўгі час.


**СТРАЛЕЦ.** Зоркі абяцаюць прыемны тыдзень, напоўнены задавальненнямі, свецкімі зносінамі, прыемнымі ўражаннямі, магчымасцю паклапаціцца пра сябе. Лепш за ўсё будзеце адчуваць сябе ў аўторак: энергічная атмасфера дня падыдзе да вашых планаў павесяліцца.


**КАЗЯРОГ.** Звяртайце ўвагу на дзіўныя ідэі, якія вас наведаюць, і неардынарную інфармацыю, якая ў іншы час здалася б вам дзівацкай і пустой – цяпер ад іх будзе карысць. Выхадныя пройдуць спакойна, з добрай магчымасцю адпачыць і заняцца сваімі справамі.


**ВАДАЛЕЙ.** Вы можаце павысіць сацыяльную значнасць і стаць ключавой фігурай важнай падзеі. Можаце рабіць нешта і для сябе – але гэта будзе паспяховым, толькі калі вы падзяляеце каштоўнасці грамадства і ваша імкненне адобраць блізкія.


**РЫБЫ.** Вы будзеце вельмі паддавацца настрою. У будні будзьце абачлівыя ў фінансавых справах: там складзецца напружаная абстаноўка, усе пытанні будуць вырашацца інтэнсіўна. Можа зламацца нешта з патрэбных рэчаў.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 5 | | | 1 | | | 3 |
| 4 | | 9 | 8 | | | | 7 | |
| | 8 | | 7 | | | | 4 | |
| 7 | 5 | | | | | | | |
| 9 | 2 | 1 | | | | 7 | | |
| | 3 | 4 | | | | | 2 | 9 |
| 3 | | | 2 | | 8 | 4 | | |
| | | | 1 | 6 | 9 | | | |
| | 6 | 2 | 3 | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by



# Праз газету дзякавалі тым, хто салам і грашыма дапамог зняволеным

## Было гэта ў 1927 годзе

МАЛАДЗЕЧНА

**Газету «Наш голас» (№7 ад 16.02.1927) з адпаведным матэрыялам знайшоў наш чытач, краязнаўца Кастусь Шыталь.**

Прыводзім урывак з той падзякі. Арфаграфію захоўваем: «Маладэчанскі Павятовы Камітэт Беларускае сялянска-Работніцкае грамады шле шчырую падзяку ўсім ніжэй паданым за ахвяры, зложаныя для сяброў адбываючых адміністрацыйныя кары: Бухаўскаму гуртку Бел. Сялян.-Работ Грамады – за восем кілё сала, два з паловай кілё каўбасы і 5 зл. 90 гр. грашыма…»

Дзякуюць таксама Засценскаму гуртку Лебедзеўскай гміны, гуртку ў вёсцы Канчаны Красасельскае гміны, гурткам з Маросек, Крыніцы, Сівіцы, грамадзянам з Пісараўшчыны.

Абяцаюць, што ўсе ахвяры адашлюць пацярпелым ад адміністрацыйных пакаранняў.

**«Наш голас»** – заходнебеларуская грамадска-палітычная газета, орган Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Выдавалася ад 26 студзеня 1927 да 26 лютага 1927 года ў Вільні на беларускай мове два разы на тыдзень.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

**Падзякі.**

**Маладэчанскі Павятовы Камітэт Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады** шле шчырую падзяку ўсім ніжэй паданым за ахвяры, зложаныя для сяброў адбываючых адміністрацыйныя кары: Бухаўскаму гуртку Бел. Сялян.-Работ. Грамады за 8 кілё сала, 2½ кілё каўбасы і 5 зл. 90 гр., грашыма: Засьценскаму гуртку, Лебедзеўскае гм., за 11 зл. 15 гр., Гуртку ў в. Канчані, Красна-сельскае гм., за 10 зл. 80 гр., Ваўкоўскаму гуртку, Красьнянскае гм., за 6 зл. 30 гр., Грамадзянам вёскі Пісараўшчына, Красьнянскае гм., за 1 зл. 75 гр., Крыніцкаму гуртку, Маладэчанскае гм., за 3 зл. 40 гр., Мусяцімкаму гуртку, Краснасельскае гм., за 3 зл. 5 гр., Мароськаўскаму гуртку, Лебедзеўскае гм., за 14 зл. 30 гр., грашыма, 6½ фун. каўбас і 5 фун. сала, Гурновіцкаму гуртку за 3 зл., 10 гр., Гуртку ў Дравашах за 12 зл. 30 гр., Енімахоўскаму гуртку за 2 зл., Сівіцкаму гуртку за 7 зл. 40 гр., Даўгалагоўскаму гуртку за 3 зл. 85 гр. Усе тут успомненыя ахвяры будуць адасланы пацярпеўшым ад адміністрацыйных караў.

Скан забяспечаны Кастусём ШЫТАЛЕМ.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Якія творы мастацтва абірае загадчык Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера Аляксандр Бажко, чытайце ў рубрыцы «Таршэр».**

## 2 студзеня, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 3-4 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -22,5°С у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +5,2°С у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 18 мм у 2004 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## ПРОСТА АНЕКДОТ

***

– Каханая, што табе падарыць на Новы год?

– Ой, нават не ведаю…

– Добра. Даю табе год на роздумы.

***

Спачатку кажуць: «Як Новы год сустрэнеш, так яго і правядзеш». А пасля: «Як гэта перастаць есці па начах?»

***

Гэта быў самы сапраўдны год Пацука. Сядзелі ў норках. Цягалі ежу дамоў і там грызлі. Заўважыўшы чалавека, хаваліся. Пераносілі інфекцыю.

***

– Ты заўважыла, што ў майго хлопца да Новага года новая татуха?

– А ты заўважыла, што ў мяне ўвесь хлопец новы?

***

Тры стадыі сталення мужчыны:

– Ён верыць у Дзеда Мароза.

– Ён не верыць у Дзеда Мароза.

– Ён сам Дзед Мароз.

***

Склаў спіс падарункаў на Новы год і вырашыў, што пасварыцца з усімі будзе танней.

***

Акцыя «Не чапайце, гэта на Новы год» скончылася 31 снежня. Пачалася акцыя «Ешце, а то сапсуецца».

***

– Тата, здагадайся, які цягнік больш за ўсіх спазняецца?

– Які?

– Той, што ты абяцаў падарыць мне на Новы год.

***

Да добрага работніка ў канцы года прыходзіць Дзед Мароз, а да дрэннага – Дэд Лайн.

***

– Мама, хадзі хутчэй у пакой. Ялінка загарэлася.

– Не загарэлася, а заззяла.

– Мама, хадзі хутчэй сюды, ужо канапа заззяла.

***

Размова мужа і жонкі:

– Каханы, ты нарэшце выкінуў ялінку?

– Так.

– Ну, цяпер пойдзем новую купляць?

– Навошта?

– Новы год – праз тыдзень.

***

Чым даражэй сустрэнеш Новы год, тым бяднейшей правядзеш студзень

***

Цікавы факт: Калі вы нарадзіліся ў верасні, значыць, вашы бацькі добра сустрэлі Новы год.

***

Купіла на Новы год падарункі – дзве машынкі на радыёкіраванні, каб сын з мужам не пабіліся.

***

Весела і з агеньчыкам прайшоў Новы год у сям'і Пятровых. Гэта пацвердзілі і міліцыя, і пажарныя.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

# Што плануеце зрабіць у 2021 годзе, каб напрыканцы года сабой ганарыцца?



**Алеся, Ільля, Вілейскі раён:**
– Плануе быць шчаслівай і дарыць шчасце блізкім мне людзям, а таксама ўсмешкі і добры настрой усім, хто побач.



**Марына, Маладзечна:**
– Хачу, каб мае родныя пражылі 2021 год і не хварэлі.



**Алена, Маладзечна:**
– Спадзяюся, што 2021 год будзе лепшы. Мы плануем справіць наваселле ў новым доме, які пабудавалі амаль за год. А яшчэ ў нас будзе папаўненне: у сям'і нас ужо будзе шасцёра.



**Галіна, Смаргонь:**
– Ажаніць сына, выпусціць свой 11 клас, навесці на лецішчы ідэальны парадак, навучыцца шыць, падарожнічаць.



**Аляксандр, Маладзечна:**
– Спадзяюся, што ўсе вінаватыя ў гвалце сядуць у турму. Яшчэ гадаваць дзяцей і працаваць.



**Ігар, Маладзечна:**
У наступным годзе хачу знайсці годную працу.



**Алена, Маладзечна:**
Вывучыць англійскую мову.

**Падрыхтавалі Настасся УТКІНА і Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№1 (1340) 01.01.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 2169. Падпісана ў друк у 9.00 30.12.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.